МІЖНАРОДНАЕ ГРАМАДСКАЕ АБ'ЯДНАННЕ "ЗГУРТАВАННЕ БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ "БАЦЬКАЎШЧЫНА"

№2 (119)
люты 2012

# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ

ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

## У НУМАРЫ:

### МАЛАЯ РАДА ЗАЦВЕРДЗІЛА ПЛАН ПРАЦЫ "БАЦЬКАЎШЧЫНЫ" НА 2012 ГОД

Першае ў 2012 годзе пасяджэнне Малой Рады Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" адбылося 23 лютага ў Мінску. Распачала пасяджэнне кіраўнік Згуртавання Алена Макоўская.

*Працяг на стар. 2*

### ДЗЬВЮХМОЎЕ "ЎЗМАЦНЯЕ МАЗГІ"*

Многія іміграны ў Амэрыцы апыняюцца перад пытаньнем: ці варта перадаваць нашчадкам мову дзядоўбацькоў? Сёньня маем нарэшце адказ на яго ад экспэрымэнтальнай псыхалёгіі.

**У мове арыгіналу*

*Працяг на стар. 7*

### У МАСКВЕ ПРАЙШЛА БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРНАЯ ВЕЧАРЫНА

Нацыянальна-культурная аўтаномія "Беларусы Масквы" сумесна з Маскоўскім домам нацыянальнасцяў 20 студзеня правялі літаратурную вечарыну, прысвечаную творам беларускіх пісьменнікаў Масквы, што летась выйшлі з друку.

*Працяг на стар. 5*

### БЕЛАРУСЫ ПЕЦЯРБУРГА ЗАПІСВАЮЦЬ ДЫСК НА СЛОВЫ АЙЧЫННЫХ КЛАСІКАЎ

*Працяг на стар. 4*

НАВІНЫ МГА "ЗБС "БАЦЬКАЎШЧЫНА"

# Беларускія і славацкія бізнесоўцы падзяліліся вопытам у філантропіі




Круглы стол "Найлепшыя практыкі ў карпаратыўнай філантропіі: абмен славацкім і беларускім вопытам" адбыўся 26 студзеня ў Мінску. Сустрэча стала падсумаваннем двухгадовых зносін паміж беларускімі і славацкімі партнёрамі ў такіх важных для грамадства тэмах, як супраца бізнесу і грамадства і карпаратыўная адказнасць. Арганізатарам мерапрыемства выступіла МГА "ЗБС "Бацькаўшчына".

"У Беларусі славацкія спецыялісты правялі шэраг адукацыйных мерапрыемстваў для прадстаўнікоў беларускага грамадскага сектара, якіх нашы арганізацыі натхнілі на канкрэтныя ідэі ў супрацы з бізнесам. І вось што цікава: частка грамадскіх арганізацый – удзельнікаў навучання працуе ў сацыяльнай сферы, частка – у сферы культуры, але прапанаваныя і рэалізаваныя ідэі былі вельмі цікавымі і разнастайнымі, чым даказалі – у Беларусі ёсць багата прасторы для супрацы паміж НДА і бізнесам. Ад гэтага выйграюць усе: грамадскія арганізацыі атрымліваюць падтрымку і аднадумцаў у рэалізацыі сваіх праектаў, выйграе і бізнес, бо для яго гэта і рэпутацыя, і імідж у вачах спажыўцоў, і карпаратыўны дух у саміх кампаніях, але самае галоўнае – выйграе грамадства ў цэлым", – адзначыла ў сваім вітальным звароце Алена Макоўская, кіраўнік МГА ЗБС "Бацькаўшчына".

З прэзентацыяй выступіла Моніка Брошкава, праграмны менеджар фонду "Понціс", якая азнаёміла прысутных са станам філантропіі ў Славакіі, дзе карпаратыўная адказнасць падтрымліваецца на дзяржаўным узроўні. Па славацкіх законах любое прадпрыемства можа накіраваць 2% ад сумы сваіх падаткаў на карысць грамадскай супольнасці, і новая традыцыя, што пачалася з

➲

нясмелых рухаў, ужо зрабілася нормай бізнес-этыкі ў грамадстве. Таксама “Понціс” распрацаваў цэлую методыку супрацы бізнесу і грамадскай супольнасці, выдаў яе на англійскай і беларускай мовах. Спампаваць даведнік можна на сайце www.budzma.org.

Пра свой багаты досвед у філантропіі расказалі прадстаўнікі бізнесу Марцін Штрба – дырэктар па маркетынгу другой па велічыні кніжнай інтэрнэт-крамы ў Славакіі, і Іван Хофманс – дырэктар вытворчай кампаніі.

Марцін Штрба расказаў пра бачанне карпаратыўнай адказнасці ў сваёй кампаніі. Гэта ў тым ліку і празрыстая схема налічэння заробкаў і прэмій, і нефармальны стыль зносінаў з кліентамі ў сацсетках, і шматлікія сацыяльныя акцыі. Сярод апошніх прывёў прыклад магчымасці для кліентаў сайта рабіць ахвяраванні, што ўжо дазволіла сабраць больш за 30 тысяч еўра для дзяцей-сіротаў, і цікавую акцыю пра абмен прачытанымі кнігамі паміж кліентамі крамы на яе ж сайце.

Іван Хофманс прадэманстраваў добры прыклад таго, што кожнаму чалавеку ёсць годнае месца ў жыцці. Часам проста трэба дапамагчы яго знайсці. Ён расказаў пра досвед арганізацыі працоўных месцаў для жыхароў сацыяльнага прытулку і ўжыванне сістэмы MELBA, распрацаванай спецыяльна для людзей з абмежаванымі магчымасцямі і сацыяльна слаба абароненых людзей. Сутнасць сістэмы – у складанні ў адзіную базу магчымасцяў чалавека і параўнанне іх, пункт за пунктам, з патрабаваннямі да канкрэтнай пасады. Пры падтрымцы нідэрландскага бізнесу Іван Хофманс стварыў працоўны калектыў з маладых людзей, што выраслі ў прытулку. Супольная дзейнасць дазволіла не проста падтрымаць іх і даць магчымасць самастойна жыць, але і стала базай для рэальнага працоўнага калектыву, чые паказчыкі – адны з найлепшых на прадпрыемстве.

Беларускі бок на сустрэчы быў прадстаўлены шырока – і грамадскай супольнасцю, і бізнесам. Па-рознаму актыўныя, у круглым стале ўзялі ўдзел прадстаўнікі маркетынгу, буйных часопісаў, аўтабізнесу, прадстаўнікі сацыяльных і культурніцкіх грамадскіх арганізацый – “Таварыства беларускай мовы”, “Здароўе ў XXI стагоддзі”, “Асацыяцыя інвалідаў-калясачнікаў”, “Сацыяльныя праекты” з Гомеля, Гендэрныя перспектывы/праграма ЛаСтрада. Маладая беларуская філантропія ўжо мае праекты, якімі можна ганарыцца: гэта і сістэма ахвяравання з інфармацыйных кіёскаў, падтрыманая “Беларусбанкам”, і спартыўныя спаборніцтвы для людзей з абмежаванымі магчымасцямі, падтрыманыя БПС-банкам, і правядзенне рэгіянальных прэзентацый фестывалю “Аднак!”, падтрыманыя рэсурсам marketing.by і кампаніяй “Атлант-М”, і шмат-шмат іншых.

Праведзены круглы стол прадэманстраваў актуальнасць тэмы філантропіі для беларускага грамадства, дзе яна, на жаль, носіць пакуль што кропкавы характар. А параўнанне з вопытам Славакіі наглядна прадэманстравала, што беларусам ёсць шмат чаму вучыцца і над чым працаваць.

*budzma.org*

## МАЛАЯ РАДА ЗАЦВЕРДЗІЛА ПЛАН ПРАЦЫ “БАЦЬКАЎШЧЫНЫ” НА 2012 ГОД



Першае ў 2012 годзе пасяджэнне Малой Рады Згуртавання беларусаў свету “Бацькаўшчына” адбылося 23 лютага ў Мінску. Распачала пасяджэнне кіраўнік Згуртавання Алена Макоўская. Яна распавяла аб бягучай дзейнасці “Бацькаўшчыны” за апошнія некалькі месяцаў.

Старшыня Рады “Бацькаўшчыны” Ніна Шыдлоўская агучыла фінансавую справаздачу аб дзейнасці арганізацыі за 2011 год. Справаздача была зацверджана абсалютнай большасцю галасоў прысутных.

Аб выніках правядзення Вялікай Рады паведаміла Алена Макоўская. У пісьмовым галасаванні ўзялі ўдзел 72 з 104 сябраў Вялікай Рады. У выніку адзінагалосна была ўхвалена справаздача аб дзейнасці “Бацькаўшчыны” за 2011 год. Таксама адзінагалосна было прынятае рашэнне абвесціць 2013 год Годам беларускай дыяспары. Абсалютная большасць сябраў Вялікай Рады, якія ўзялі ўдзел у галасаванні, выказаліся за тое, каб звярнуцца да адпаведных дзяржаўных органаў з прапановай абвесціць на дзяржаўным узроўні 2013 год Годам беларускай дыяспары. Гэтаксама абсалютнай большасцю было вырашана ўключыць у склад Управы сябраў Малой Рады Антона Астаповіча і Алега Трусава.

Пасля абвяшчэння вынікаў правядзення Вялікай Рады прысутныя перайшлі да абмеркавання плана дзейнасці “Бацькаўшчыны” на бягучы год. За аснову быў узяты план дзейнасці, распрацаваны кіраўніцтвам “Бацькаўшчыны” і ўхвалены Управай. План утрымлівае 79 пунктаў. Спынімся падрабязней на некаторых з іх – найбольш важных і цікавых.

**У межах арганізацыйнай і прававой дзейнасці** прадугледжана:

- аказанне практычнай дапамогі беларускім суполкам у арганізацыі іх дзейнасці, у тым ліку падтрымка пры стварэнні новых беларускіх суполак у замежжы і рэгіянальных арганізацый у Беларусі;
- удзел у Кансультатыўным савеце па справах беларусаў замежжа пры Міністэрстве культуры;
- удзел у Рабочай групе Нацыянальнага цэнтра заканадаўства і прававых даследаванняў па распрацоўцы закона аб беларусах замежжа;
- сустрэчы з міністрамі і супрацоўнікамі Мінкульта, МЗС, Апарата Упаўнаважанага па справах рэлігій і нацыянальнасцей, Мінадукацыі і інш. па пытаннях беларусаў замежжа, выкладзеных у выніковых дакументах V з’езду беларусаў свету;
- арганізацыя публічных сустрэчаў у Мінску з прадстаўнікамі беларусаў замежжа і інш.;
- падрыхтоўка да VI з’езду беларусаў свету.

**У галіне інфармацыйнай дзейнасці** плануецца распрацаваць новы дызайн сайта МГА “ЗБС “Бацькаўшчына”, перанесці сайт на новую тэхналагічную платформу; рэгулярна папаўняць электронную бібліятэку дыяспары на сайце Згуртавання сумесна з інтэрнэт-бібліятэкай “Камунікат”; распаўсюджваць інфармацыю ў прэсе аб дзейнасці Згуртавання “Бацькаўшчына”, праблемах беларускай дыяспары, сітуацыі з законам аб беларусах замежжа, працягваць выданне інфармацыйнага бюлетэня “Беларусы ў свеце” і інш.

**У галіне навукі і адукацыі** запланавана:

- распрацоўка плана культурна-асветных мерапрыемстваў ў межах ад-

значэння Года беларускай дыяспары ў Беларусі і беларускіх суполках замежжа;

- распрацоўка канцэпцыі супрацоўніцтва з Інстытутам культуры Беларусі;

- збор матэрыялаў, падвядзенне вынікаў прэміі імя Ігната Дварчаніна за 2010 і 2011 гг. і ўручэнне прэміі за 2011 год;

- падрыхтоўка выдання (папяровага і/ці мультымедыйнага), прысвечанага “матэрыяльнай культуры беларускай эміграцыі”: калекцыі эміграцыйных артэфактаў (рэчаў, паштовак, значкаў і г.д.) і інш.

**У галіне выдавецкай дзейнасці** планам прадугледжана:

- выданне ў серыі “Бібліятэка Бацькаўшчыны” кніг Л. Юрэвіч “Жанры” і П.Джонсан-Текеянўакей “Легенды Ванкувера” (пераклад І.Варабей);

- падрыхтоўка да друку матэрыялаў Чацвёртага і Пятага з’ездаў беларусаў свету;

- перавыданне кніг А.Трусава “Невядомая нам краіна” і А.Грыцкевіча “Старонкі нашай мінуўшчыны” (у серыі “Кнігазбор” – “Выбранае”);

- сумесна з Саюзам беларускіх пісьменнікаў выданне літаратурнага бюлетэня “Кніганоша”, у тым ліку падрыхтоўка і выданне англамоўных дайджэстаў “Кніганоша” па выніках 2011 і 2012 гг. і іх распаўсюд па замежных бібліятэках, ВНУ, даследчых установах і інш.

**У галіне культуры і асветы** запланавана:

- передача кніг у бібліятэкі беларускіх асяродкаў у замежжы, а таксама ў навучальныя ўстановы, бібліятэкі, дзіцячыя дамы Беларусі;

- удзел у святкаванні юбілеяў Я. Купалы і Я. Коласа, а таксама супольна з Таварыствам беларускай мовы імя Ф. Скарыны ў святкаванні юбілею М. Ткачова;

- удзел у святочных імпрэзах арганізацый-партнёраў да юбілеяў выбітных дзеячаў культуры і г.д.

Таксам планам прадугледжаны працяг працы па каардынацыі дзейнасці агульнанацыянальнай грамадскай кампаніі **“Будзьма беларусамі!”**.

На пасяджэнні паступіла прапанова ад Анатоля Вярцінскага, якую падтрымалі ўсе прысутныя, аб ушанаванні памяці ахвяраў 1937 года. План мерапрыемстваў па ўшанаванні будзе распрацаваны Управай “Бацькаўшчыны”.

Радзім Гарэцкі нагадаў пра тое, што ў гэтым годзе спаўняецца 90 год з часу заснавання Інстытута беларускай культуры. Радзім Гаўрылавіч паведаміў, што створаная пры Акадэміі навук Беларусі камісія па гісторыі навукі мае намер у межах адзначэння юбілею аднавіць памятныя дошкі Усеваладу Ігнатоўскаму, Максіму Гарэцкаму і дошку, прысвечаную Інбелкульту, якія былі размешчаны на будынку ў Мінску па адрасе: вул. Рэвалюцыйная, 15. Сябрамі Рады было прынятае рашэнне далучыцца да гэтай ініцыятывы, тым больш, што дошка Ігнатоўскаму захоўваецца ў сябраў Згуртавання, а дошка, прысвечаная Інбелкульту, – у сябра Рады “Бацькаўшчыны”, скульптара Алеся Шатэрніка.

Падчас пасяджэння актыўнае абмеркаванне сябраў Рады выклікала праблема ад’езду вялікай колькасці беларусаў за мяжу. Гэтае пытанне ўзняў Леанід Лыч. Ён звярнуў увагу на тое, што ў сённяшніх умовах гэтая праблема стаіць вельмі востра, тым больш што зараз за мяжу з’язджаюць у большасці маладыя, высокакваліфікаваныя кадры. Згодна дадзеных, апублікаваных Незалежным інстытутам сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў, больш за дзве траціны маладых людзей ад 18 да 24 гадоў жадаюць пераехаць у іншую краіну назаўжды. Такім чынам ідзе імклівае вымыванне інтэлектуальнага патэнцыялу нацыі за межы краіны. Большасць прысутных на пасяджэнні падтрымала думку аб тым, што неабходна весці выхаваўчую працу, асабліва сярод моладзі, з тым, каб зменшыць інтэнсіўнасць эміграцыйных працэсаў, а таксама весці працу па павышэнні нацыянальнай самаідэнтыфікацыі для таго, каб, нават з’язджаючы за мяжу, беларусы працягвалі лічыць сябе беларусамі і не забывалі пра свае карані.

*Інфармацыйны цэнтр МГА “ЗБС “Бацькаўшчына”*

ВІНШАВАННІ

## ВІНШАВАННІ СЯБРАЎ ВЯЛІКАЙ РАДЫ

Маем гонар павіншаваць з Днём нараджэння сябраў Вялікай Рады Згуртавання беларусаў свету “Бацькаўшчына”, якія нарадзіліся ў сакавіку: **Мікалая Люцко, Алеся Мазура, Аляксея Марачкіна, Лідзію Савік** (Беларусь), **Валянціна Грыцкевіча** (Расія), **Іну Снарскую (Дзідык)** (Украіна), **Юрку Станкевіча** (Чэхія). Жадаем Вам моцнага здароўя, доўгіх год жыцця, сонечнай цеплыні, добрага настрою, плёну ў працы.

22 сакавіка адзначае юбілей сябра Вялікай Рады Згуртавання беларусаў свету “Бацькаўшчына” **Яўген Мурашка (**Германія). Шчыра віншуем шаноўнага юбіляра са святам, жадаем выдатнага здароўя, дабрабыту, веры ў лепшае, поспехаў ва ўсіх справах.

*Управа МГА “ЗБС “Бацькаўшчына”*



## НОВЫ НУМАР ЛІТАРАТУРНАГА БЮЛЕТЭНЯ “КНІГАНОША”


ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ
Кніга ноша № 12 снежань, 2011
ЗАСНАВАЛЬНІКІ: ГА “САЮЗ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ”; МГА “ЗБС “БАЦЬКАЎШЧЫНА”
АЎТОГРАФ
Уладзімір СІЎЧЫКАЎ: «Трэба ўмець быць удзячнымі»
Даведка «Кніганошы»!
Уладзімір Сіўчыкаў – перакладчык, празаік, паэт, драматург, мастак, выдавец. Аўтар кніг прозы «Гульня ў тастамант», «Лісты да брата», «Бювар», «Высакосны год», «Рыцары Пагоні і Арла» (сумесна з А. Марачкіным), шматлікіх казак, п’ес і сцэнарыяў. Нарадзіўся ў 1958 годзе ў Жодзіне. Жыве ў Мінску.

Адкрывае нумар гутарка з пісьменнікам, выдаўцом, мастаком і перакладчыкам Уладзімірам Сіўчыкавым, у якой ён распавядае пра сваю малую радзіму – горад Жодзіна і яго заснавальніка Багуслава Радзівіла ды пра найбліжэйшыя выдавецкія планы.

У рубрыцы “Імпрэзы” чытайце рэпартаж з вечарыны памяці паэткі Таццяны Сапач, якая загінула ў аўтакатастрофе ў снежні 2010 года.

У рубрыцы “Погляд” змешчана рэцэнзія на зборнік “Славутыя імёны Бацькаўшчыны”.

Па традыцыі ў чарговым нумары “Кніганошы” чытач знойдзе інфармацыю пра шэраг навінак беларускамоўнага друку, сярод іх: “Толькі б яўрэі былі!..” Рыгора Барадуліна, “Зборная РБ па негалоўных відах спорту” Паўла Касцюкеівча, “Нясвіжскі альбом” Францішкі Уршулі Радзівіл, “Сад замкнёных гор” Сержа Мінскевіча, “Малады вецер” Янкі Сіпакова і інш.

Спампаваць новы нумар бюлетэня можна на сайце zbsb.org.

*Інфармацыйны цэнтр МГА “ЗБС “Бацькаўшчына”*

## ПЕРАД БУДЫНКАМ ААН ПРАЙШОЎ МІТЫНГ У ПАДТРЫМКУ БЕЛАРУСКІХ ПАЛІТВЯЗНЯЎ




Прадстаўнікі беларускай дыяспары ЗША 4 лютага правялі ў Нью-Ёрку акцыю падтрымкі палітвязняў Беларусі. У гэты дзень каля штаб-кватэры ААН сабралася каля сотні ўдзельнікаў, каб прадэманстраваць сваё стаўленне да таго, што адбываецца ў Беларусі.

Прадстаўнік Беларуска-Амерыканскага Задзіночання Нью-Джэрсі Алесь Вінакураў распавёў пра падзеі апошніх гадоў, арышты сотняў чалавек – сямёра з якіх былі кандыдатамі ў прэзідэнты – пасля снежаньскіх выбараў-2010, пра здзекі, якія чыняцца ў турмах ды калоніях Беларусі.

Старшыня Беларуска-Амерыканскага Згуртавання “Пагоня” Віталь Зайка звярнуў увагу ўдзельнікаў мітынгу на недастатковасць рэзанансу беларускага пытання ў міжнароднай супольнасці наогул ды сярод амерыканскай заканадаўчай ды выканаўчай улады ў прыватнасці. Таму ствараць умовы для такога рэзанансу зараз – жыццёвая неабходнасць!

Сябра “Пагоні” і Беларускага Моладзевага Руху Амерыкі Яўген Барысевіч зачытаў зварот да прэзідэнта ЗША Барака Абамы і дзяржсакратара ЗША Хілары Клінтан. Пад ім падпісаліся ўсе ўдзельнікі мітынгу.

Каардынатар Беларускага Моладзевага Руху Амерыкі Дзяніс Талпека адзначыў, што маральная падтрымка для людзей, якія знаходзяцца за кратамі, – гэта тое, што дае ім моцы.

Ужо традыцыйна, мітынг скончыўся спевам беларускіх гімнаў “Мы выйдзем шчыльнымі радамі”, “Пагоня” ды “Магутны Божа”.

*Беларускі Моладзевы Рух Амерыкі*

## БЕЛАРУСЫ ПЕЦЯРБУРГА ЗАПІСВАЮЦЬ ДЫСК НА СЛОВЫ АЙЧЫННЫХ КЛАСІКАЎ

Беларусы Санкт-Пецярбурга рыхтуюць да выдання музычны дыск пад назвай “Пецярбургскі сшытак”. На дыску будзе 12 песень беларускага кампазітара з Санкт-Пецярбурга Ірыны Базылёвай на словы Якуба Коласа, Анатоля Кірвеля, Петруся Броўкі, Ларысы Геніюш, Яўгеніі Янішчыц ды іншых беларускіх паэтаў.

Ініцыятарам запісу дыска быў сябра Вялікай Рады МГА “ЗБС “Бацькаўшчына”, гісторык, доктар філалагічных навук, загадчык аддзела рэдкай кнігі Расійскай Нацыянальнай (Публічнай) бібліятэкі Мікола Нікалаеў. Ён таксама з’яўляецца аўтарам кнігі “Беларускі Пецярбург”, сярод герояў якой ёсць і Ірына Базылёва.

“Пасля заканчэння кнігі “Беларускі Пецярбург” захацелася паспрабаваць актывізаваць творчы патэнцыял яе герояў”, – адзначае Мікола Нікалаеў.

На сённяшні дзень ужо гатовы пілотны дыск, на ім запісана 7 песень. Праект цалкам (у колькасці 12 твораў) плануецца прэзентаваць 15 чэрвеня падчас юбілейнай 20-й міжнароднай канферэнцыі “Санкт-Пецярбург і беларуская культура”.

Праект “Пецярбургскі сшытак” з'яўляецца часткай вялікага праекту пад назвай “Беларускі Пецярбург”, які распрацоўвае Мікола Нікалаеў. Ён узначальвае Асацыяцыю беларусістаў Пецярбурга, куды ўваходзяць мастакі, спевакі, паэты і г.д. У межах праекту выдаюцца кнігі беларускіх пісьменнікаў Санкт-Пецярбурга, ладзяцца выставы мастакоў, праводзяцца экскурсіі па “беларускім” Пецярбургу.

“У рамках гэтага вялікага культурнага праекта мы задумалі зрабіць дыск маіх песень, якія я пісала на працягу 10 гадоў, – распавядае Ірына Базылёва. – Канешне, туды ўвайшлі далёка не ўсе песні – адбіралі найбольш лірычныя, песні, у якіх спяваецца пра каханне, любоў да Радзімы”.

У запісе “Пецярбургскага сшытка” ўзялі ўдзел больш за 10 спевакоў.

“Выканаўцы – гэта спевакі, родам з Беларусі, якія, як правіла, скончылі вышэйшыя музычныя ўстановы ў Піцеры, дзе і засталіся, – гаворыць Ірына Базылёва. – Практычна ўсе яны – лаўрэаты міжнародных конкурсаў, вядомыя ў Піцеры выканаўцы, працуюць у оперных тэатрах, капэле, вядуць сольную канцэртную дзейнасць. Хацелася б, каб яны не забылі сваю Радзіму і каб Радзіма ведала пра сваіх спевакоў і ганарылася іх дасягненнямі. Плануем развіваць гэты праект, рабіць канцэрты




на розных пляцоўках Беларусі і замежжа”.

Паслухаць некалькі песень з дыска “Пецярбургскі сшытак” і прачытаць гутарку з Ірынай Базылёвай можна на сайце zbsb.org.

*Інфармацыйны цэнтр МГА “ЗБС “Бацькаўшчына”*



***Ірына Базылёва** (па мужу Герасімава) – кандыдат мастацтвазнаўства, выкладчык старажытных царкоўных спеваў, кампазітар.*

*Скончыла Мінскую музычную вучэльню (1998), Санкт-Пецярбургскую дзяржаўную кансерваторыю (аддзяленне старажытнарускага спеўнага мастацтва – 2003, аспірантура -- 2008), факультэт гісторыі Еўрапейскага ўніверсітэта ў Санкт-Пецярбургу (2007).*

*Займаецца вывучэннем барочнай музыкі ВКЛ. Супрацоўнічае з многімі харавымі калектывамі Беларусі, Украіны, Польшчы, Расіі. Піша гістарычную працу па Вільні падчас Патопу (1655-1661). Працуе выкладчыкам музычна-тэарэтычных дысцыплін Санкт-Пецярбургскага інстытута Рэлігіязнаўства і Царкоўных Мастацтваў.*

# У МАСКВЕ ПРАЙШЛА БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРНАЯ ВЕЧАРЫНА

Нацыянальна-культурная аўтаномія "Беларусы Масквы" сумесна з Маскоўскім домам нацыянальнасцяў 20 студзеня правялі літаратурную вечарыну, прысвечаную творам беларускіх пісьменнікаў Масквы, што летась выйшлі з друку.

Вечарыну распачалі ўступным словам намеснік дырэктара Маскоўскага дома нацыянальнасцяў Алесь Панамар і старшыня НКА "Беларусы Масквы" Сяргей Кандыбовіч.

Вядучы імпрэзы, намеснік старшыні рады НКА "Беларусы Масквы" Алесь Глод, расказаў пра чарговы зборнік паэзіі вядомага паэта, празаіка і перакладчыка Івана Бурсава. Іван Цярэшкавіч добра знаёмы чытачам перакладамі на рускую мову вершаў беларускіх паэтаў, творамі для дзяцей. На жаль, паэт не змог асабіста прысутнічаць на вечарыне, і з гісторыяй шматгадовай карпатлівай працы пошуку і творчага пераўтварэння даўніх вершаў, што сабраны ў новую кнігу "Шаги", пазнаёміла прысутных яго жонка, Маргарыта Бурсава. Яна ж прачытала нізку вершаў з новай кнігі.

Натхнёна і шчыра прагучаў аналіз паэтычнай творчасці Івана Бурсава, з якім выступіла Любоў Турбіна, паэтка, перакладчыца (Інстытут літаратуры свету Расійскай Акадэміі Навук). Іван Цярэшкавіч адкрыў рускамоўным чытачам малавядомую дасюль, самабытную, ярка вобразную паэзію беларусаў XIX стагоддзя. Атрымалася сапраўдная анталогія беларускай паэзіі 1794-1920 гадоў – буйны ўклад у беларусістыку, годны цэлага інстытута.

Пра шматгранную, насычаную паэтычным талентам мову Івана Бурсава выказаў свае думкі аматар беларускай паэзіі Якуб Шэгідзевіч.

Пра новы раман беларускага і расійскага пісьменніка Алеся Кажадуба "Дорога в Москву" распавёў сам аўтар, чым выклікаў вялікую цікаўнасць слухачоў. Гэта ўжо ці не пятая кніга Алеся Канстанцінавіча, якую пісьменнік выносіць на абмеркаванне перш за ўсё беларусам Масквы.

Гэтак жа і паэт Іван Карэнда пасля шэрагу паэтычных зборнікаў прадставіў масквічам кнігу прозы "Воплаўская госця" і прадэкламаваў урывак з паэмы "Цені вайны", што ўвайшла ў гэты зборнік.



*Кветкі прымае Маргарыта Бурсава*

Літаратар, знаўца беларускай паэзіі і літаратуры Іван Сабіла (сакратар Выканкама Міжнароднай супольнасці пісьменніцкіх саюзаў) даў высокую адзнаку прадстаўленым літаратурным творам, з асаблівай цеплынёй адгукнуўшыся пра творчасць Івана Бурсава.

Пра 10-ты выпуск літаратурна-навуковага штогадовіка "Скарыніч" распавёў каардынатар праекта Віктар Чайчыц. Як і папярэднія выпускі праекта "Скарыніч", юбілейны прысвечаны тэме беларускай нацыянальнай самабытнасці і змяшчае раздзелы паэзіі, успаміны, мемуары, нататкі паэтаў, пісьменнікаў і літаратараў, міжнародны, гістарычны і аналітычны раздзелы, адраджэнне беларускай дзяржаўнасці ў 20-я гады XX стагоддзя.

Напрыканцы імпрэзы старшыня НКА "Беларусы Масквы" Сяргей Кандыбовіч вітаў вядомага навукоўца і пісьменніка Аляксея Каўку, ідэолага, аўтара і складальніка штогадовіка "Скарыніч", заснавальніка першага ў Маскве нацыянальна-культурнага таварыства імя Францішка Скарыны.

*Раман Чырвонцаў,*
*НКА "Беларусы Масквы"*

# У КІЕВЕ ПРАЙШЛА БЕЛАРУСКАЯ ІМПРЭЗА З НАГОДЫ ДНЯ РОДНАЙ МОВЫ

У агульнаадукацыйнай школе № 235 ім. Чарнавола г. Кіева адбылася імпрэза з нагоды Міжнароднага дня роднай мовы, дзе вучні 7-11 класаў прадставілі сваю мультымедыйную прэзентацыю па Беларусі.

Прадстаўнікам "Беларускага Цэнтра" ва Украіне вучні прадставілі даклады па геаграфіі, гісторыі, культуры, літаратуры, замках Беларусі, аб гераізме абаронцаў Брэсцкай крэпасці, па беларускай нацыянальнай кухні. Гасцей пачаставалі не толькі ўкраінскімі варэнікамі, але і беларускімі дранікамі. Школьнікі спявалі беларускія народныя песні, а таксама чыталі вершы беларускіх класікаў.

На мерапрыемстве выступілі старшыня "Беларускага Цэнтра" ва Украіне і Руху Салідарнасці "Разам" Вячаслаў Сіўчык, журналістка, украінская паэтэса і перакладчыца Наталка Пазняк, беларускі паэт Сяргей Прылуцкі, малады тэатральны рэжысёр Андрэй Ігнатчык.

Напрыканцы імпрэзы вучні і настаўнікі разам з гасцямі зрабілі памятныя фотаздымкі пад беларускім і ўкраінскім сцягамі.

*Прэс-група*
*"Беларускага Цэнтра"*

# У БЕЛЬСКУ ЎШАНАВАЛІ ПАМЯЦЬ БЕЛАРУСКАЙ ПАЭТЭСЫ МАРЫЛЬКІ БАЗЫЛЮК-САСНЮК

Памяць беларускай паэтэсы і настаўніцы Марылькі Базылюк-Саснюк 18 лютага ўшанавалі ў Ратушы Бельска Падляшскага (Польшча). Тут прайшла прэзентацыя прысвечанай ёй кнігі і вечарына памяці.

Кніга пра Марыльку выдадзена Аб'яднаннем на карысць дзяцей і моладзі, якія вывучаюць беларускую мову, "АБ-БА". Да афармлення кнігі спрычыніўся мастак і блізкі сябра паэтэсы Лявон Тарасевіч.

У кніжцы змешчаны не друкаваныя раней вершы Марылькі, яе магістарская праца, успамін рэдактара кнігі Міколы Ваўранюка пра Марыльку і фатаграфіі, пачынаючы з дзяцінства і да часу, калі Марылька стала маці.

Прэзентацыя кнігі сабрала ў бельскай Ратушы поўную залу сяброў, знаёмых і блізкіх паэтэсы. Падчас вечарыны адбыўся таксама канцэрт гуртоў "0-85" з Беластока і "Людзі на балоце" з Гародні.

Марылька Базылюк пайшла з жыцця пасля цяжкай хваробы 16 гадоў таму. Для пакалення, якое ўваходзіла ў жыццё ў 1980-90-х гадах, была не толькі сяброўкай, але і настаўніцай. Сваім прыкладам паказала як цаніць і шанаваць сваё, роднае, беларускае.

*Паводле Радыё Рацыя*

# БЕЛАРУСКА-АМЕРЫКАНСКАЕ ЗАДЗІНОЧАННЕ ЗАКЛІКАЕ ПРАВЕСЦІ СУСВЕТНУЮ АКЦЫЮ ПА БАЙКАТАВАННІ ЧЭМПІЯНАТУ СВЕТУ

Беларуска-Амерыканскае Задзіночанне заклікае зладзіць сусветную акцыю па вызваленні палітвязняў у Беларусі.

"Усе мы, хто жывём у вольным свеце, павінны сёння ўзяць на сябе адказнасць дамагчыся вызвалення і рэабілітацыі ўсіх палітычных вязняў у Беларусі", – гаворыцца ў звароце, распаўсюджаным БАЗА.

БАЗА заклікае беларусаў свету "разгарнуць сусветную акцыю, якая пагрозіць Лукашэнку, што той трыумфальны для яго Чэмпіянат свету па хакеі, які мае праходзіць у Беларусі ў 2014 годзе, можа там не адбыцца, або можа быць байкатаваны многімі краінамі".

БАЗА прапануе прыкладны тэкст адозвы, якую варта пашыраць сярод беларускага грамадства ў свеце, прадстаўнікоў грамадства і палітыкаў вольнага свету, каб яны ў сваю чаргу ўплывалі на ўсе адпаведныя ўстановы, а тыя на чалавека, які павінен вызваліць усіх палітвязняў у Беларусі – на Аляксандра Лукашэнку.

БАЗА бярэ на сябе клопат у далейшым інфармаваць аб пашырэнні акцыі і заклікае іншыя арганізацыі і асобных грамадзян паведамляць яму пра тое, што зроблена ў гэтым накірунку.

*Прыкладны тэкст адозвы, прапанаваны Беларуска-Амерыканскім Задзіночаннем, можна спампаваць на сайце zbsb.org.*

*Інфармацыйны цэнтр МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*

## У Даўгаўпілсе адзначылі Масленіцу

Ужо не першы раз беларускі ансамбль "Купалінка", створаны пры Культурна-асветным таварыстве "Уздым", бярэ ўдзел у народных гуляннях Масленіцы ў Даўгаўпілскім краі (Латвія). Ансамбль "Купалінка" паказвае беларускі народны веснавы абрад "Гуканне вясны". У нашым святочным абрадзе ёсць і прыгажуня Вясна, і бабуля Зіма, і іх памочнікі скамарохі.

Сёлета беларускі ансамбль "Купалінка" запрасілі 19 лютага ўзяць удзел у святкаванні Масленіцы ў пасёлку Калкуны, што на памежжы з Даўгаўпілсам. У Калкунах жыве амаль 2500 жыхароў, сярод якіх 7,6% беларусаў. Многія мясцовыя беларусы – актыўныя сябры "Уздыму".

На Масленку прыйшло многа народу. Была і кухня: гарачы чай з варэннем, бліны, каша са шкваркамі. А колькі добрых песень гучала, сярод якіх не апошнімі былі і нашы родныя, беларускія. Устаяць на месцы не было моцы, ногі прасіліся ў танец. Ладзіліся розныя рытуальныя спаборніцтвы. У канцы спалілі саламяную ляльку і доўга танчылі каля вогнішча. А яшчэ была вясёлая аглядная экскурсія на конях па пасёлку і для малых, і для дарослых.

*Таццяна Бучэль*

## ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ Ў ЛІТВЕ: СТАРЫЯ ПРАБЛЕМЫ З НОВЫМ КІРАЎНІЦТВАМ

Справаздачна-выбарчы сход Таварыства беларускай культуры ў Літве адбыўся 28 студзеня. Падчас сходу старая рада склала свае паўнамоцтвы і адбыліся выбары новага кіраўніцтва.

Справаздачна-выбарчаму сходу папярэднічала традыцыйнае мерапрыемства, падчас якога ўзгадалі найбольш выбітных віленскіх дзеячоў на беларускай ніве, юбілейныя даты якіх з дня нараджэння ці смерці прыпалі на студзень.

У справаздачнай прамове старшыня ТБК Хведар Нюнька распавёў аб дзейнасці Таварыства за апошнія два гады. У яго выступленні канцэнтраваліся два аспекты: цяжкое фінансавае становішча ТБК і праблема падзелу беларусаў на "чэсных" і "нячэсных". Калі ў канцы 80 – пачатку 90 гг. XX ст. беларусы ішлі адным фронтам і змагаліся за нацыянальнае адраджэнне, то пасля абрання першага прэзідэнта Беларусі, яны раскалоліся і сёння ў асноўнай сваёй масе русіфікуюцца. Калі зрусіфікаваныя беларусы ў Беларусі яшчэ адчуваюць сябе беларусамі, то ў замежжы гэтага няма. Пачалася поўная асіміляцыя. Аб чым сведчаць вынікі перапісаў у розных краінах, дзе колькасць беларусаў за апошнія 10 гадоў катастрафічна зменшылася.

Другая праблема – гэта фінансавая. Сёння Таварыства не ў стане аплочваць камунальныя паслугі за офіс. Літоўская дзяржава не выдзяляе на гэта сродкаў. Зразумела, што гэта павінна была б рабіць Беларуская дзяржава тытульнай нацыі. Але яна далёкая ад праблемаў беларусаў і нават зацікаўленая ў іх хутчэйшай асіміляцыі, таму маем тое, што маем, і Таварыства практычна выжывае дзякуючы самаахвярнай працы нешматлікіх сяброў. Пазыка за аплату камунальных паслугаў складае больш за 15 000 літаў.

Ад імя рэвізійнай камісіі выступіла Леакадзія Мілаш. Яна зачытала справаздачу ад прыбытках і расходах ТБК і пацвердзіла афіцыйнымі дакументамі пазыкі Таварыства.

Затым адбыліся выбары новай рады ТБК і рэвізійнай камісіі.

Старшынёю ТБК у Літве на 2012-2013 год аднагалосна абраны Хведар Нюнька.

З 28 студзеня 2012 года са старымі задачамі па захаванні беларушчыны ў Літве распачала працу чарговая Рада ТБК.

*Алесь Адамковіч*

## БЕЛАРУСКІ КАЛЯНДАР ПАМЯТНЫХ ДАТ НА САКАВІК 2012 ГОДА

5 сакавіка – 100 год таму, у 1912-м, нарадзіўся Яўген Калубовіч (на эміграцыі Кахаsuccessfulноўскі; 1912-1987), гісторык, грамадска-палітычны дзеяч, літаратуразнавец, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША.

10 сакавіка – 70 год таму, у 1942-м, нарадзіўся Міхась Ткачоў (1942-1992), грамадска-палітычны дзеяч, гісторык, археолаг, педагог.

15 сакавіка – 20 год таму, у 1992-м, памёр Уладзімір Цвірка (да эміграцыі Вадзім Сурко, 1928-1992 ), журналіст, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне, Вялікабрытаніі і Бельгіі.

17 сакавіка – 90 год таму, у 1922-м, нарадзіўся Лявон Луцкевіч (1922-1997), грамадска-палітычны і культурны дзеяч, вязень савецкіх канцлагераў.

19 сакавіка – 400 таму, у 1612-м, памерла Соф'я Алелька-Радзівіл (1586-1612), асветніца, прылічана да Святых.

19 сакавіка – 125 год таму, у 1887-м, у Жэневе (Швейцарыя) памёр Юзаф Ігнацы Крашэўскі (1812-1887), пісьменнік, гісторык, грамадскі дзеяч.

21 сакавіка – 25 год таму, у 1987-м, у Мінску памёр Адам Русак (1904-1987), паэт-песеннік.

22 сакавіка – 30 год таму, у 1882-м, нарадзіўся Эдзюк (Эдвард) Будзька (1882-1956), паэт, публіцыст, грамадскі дзеяч.

23 сакавіка – 85 год таму, у 1927-м, нарадзіўся Уладзімір Шнэк (1927-1995), вайсковы і грамадскі дзеяч, пісьменнік, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і Аўстраліі.

23 сакавіка – 70 год таму, у 1942-м (?), у савецкім канцлагеры на лесапавале загінуў (паводле іншай версіі быў расстраляны) Сяргей Ракіта (сапр. Законнікаў Сяргей, 1909 -1942), паэт.

25 сакавіка – Дзень Волі.

25 сакавіка – 75 год таму, у 1937-м, у Вільні памёр Зыгмунт Нагродскі (1866-1937), культурны дзеяч, паэт.

25 сакавіка – 15 год таму, у 1997-м, у Вільні выйшаў першы нумар газеты "Рунь".

30 сакавіка – 85 год таму, у 1927-м, у Вільні выйшла газета "Наша праўда" (выдавалася да 24 верасня 1927 г.).

# БЕЛАРУСКІЯ ПРАДСТАЎНІЦТВЫ ЗА МЯЖОЙ: ЗА І СУПРАЦЬ САНКЦЫЙ У ДАЧЫНЕННІ ДА БЕЛАРУСІ. ПОГЛЯДЫ ПАДЗЯЛІЛІСЯ

На пачатку лютага "Офіс за дэмакратычную Беларусь" (Брусель, Бельгія) выступіў за адмену санкцый супраць беларускай дыктатуры і скарачэнне спісу неўязных беларускіх чыноўнікаў.

Кіраўніца "Офіса за дэмакратычную Беларусь" Вольга Стужынская заявіла: "Калі прайшла інфармацыя пра тое, што спісы неўязных будуць пашыраныя, мы сапраўды заявілі, што не лічым, што пашырэнне візавых санкцый на дадзены момант з'яўляецца эфектыўным метадам. Наадварот: на наш погляд, гэта можа пагоршыць становішча палітвязняў".

У адказ на гэтую заяву "Офіса за дэмакратычную Беларусь" цэлы шэраг палітычных і грамадзянскіх прадстаўніцтваў Беларусі за мяжой абвесцілі, што рашуча адмяжоўваюцца ад гэтай ініцыятывы. У сваю чаргу яны падпісалі заяву, у якой выступілі за ўзмацненне санкцый супраць рэжыму ў Беларусі.

"Лічым ініцыятыву, скіраваную на адмену візавых санкцыяў у дачыненні да асобаў, адказных за бесперапынныя палітычныя рэпрэсіі ў Беларусі, як найменей безадказнаю і амаральнаю", – гаворыцца ў прынятай беларускім прадстаўніцтвамі ў замежжы заяве.

Падпісанты заявы настойваюць "на крымінальным пераследзе высокапастаўленых чыноўнікаў рэжыму Лукашэнкі, адказных за парушэнні Канвенцыі ААН супраць катаванняў, за знікненні лідараў апазіцыі, грамадскіх актывістаў, журналістаў" і патрабуюць "увядзення кропкавых эканамічных санкцыяў супраць рэжыму Лукашэнкі".

Пад лістом за ўзмацненне санкцый падпісаліся: Грамадзянскае і палітычнае прадстаўніцтва Беларусі ў Літве (Літоўская Рэспубліка, Вільня); Таварыства Беларускай культуры ў Літве (Літоўская Рэспубліка, Вільня); Беларускі Дом у Варшаве (Польшча, Варшава); Беларускі Трыбунал (Belarusian Tribunal), (Нідэрланды, Гаага); Беларускі Цэнтр ва Украіне (Украіна, Кіеў); Офіс беларускай палітычнай эміграцыі (Бельгія, Антверпен); Звяз падтрымкі дэмакратыі ў Беларусі (Związek na rzecz Demokracji w Białorusi) (Польшча, Варшава); грамадзянская кампанія "Free Belarus Now" (Мінск – Лондан); фонд "Мы памятаем" (Мінск – Вашынгтон); Каардынацыйны Цэнтр у Рызе для беларускай грамадзянскай супольнасці (Coordination Center in Riga for Belarusan civic society) (Латвія, Рыга); саюз "Чарнобыль-Беларусь" (Украіна, Кіеў).

*Тэкст прынятай заявы цалкам можна знайсці на сайце zbsb.org.*

*Інфармацыйны цэнтр МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*

ТЭМА

# ДЗЬВЮХМОЎЕ "ЎЗМАЦНЯЕ МАЗГІ"*

(Найперш да ведама бацькоў і настаўнікаў)

Многія імігранты ў Амэрыцы апыняюцца перад пытаньнем: ці варта перадаваць нашчадкам мову дзядоўбацькоў? У гэтым даўнім пытаньні доўгі час пераважала думка (нічым не абгрунтаваная), што дзьвюхмоўе перашкаджае мазгавому разьвіцьцю дзіцяці. Сёньня маем нарэшце адказ на яго ад экспэрымэнтальнай псыхалёгіі. Цягам апошніх дзесяцігодзьдзяў нэўралягічныя досьледы пры дапамозе новых тэхналёгіяў прывялі якраз да супрацьлеглага адказу на пытаньне пра сувязь дзвьвюхмоўя й мазгавога разьвіцьця. І шмат хто робіць практычныя высновы з гэтага вынаходзтва.

У папулярных амэрыканскіх часопісах цяпер часта рэкамэндуюць бацькам узгадоўваць дзяцей у дзьвюхмоўі. Грунтоўны артыкул на гэтую тэму быў апублікаваны ў леташнім травеньскім нумары (31.05) газэты "Нью Ёрк Таймс" у форме гутаркі з прафэсаркай, заслужаным доктарам псыхалёгіі Эленай Бялысток (Ellen Bialystok). Яна – спэцыялістка кагнітыўнае нэўралёгіі, якая амаль сорак гадоў займаецца вывучэньнем уплыву дзьвюхмоўя на разьвіцьцё мазгавых здольнасьцяў чалавека. Як паказалі экспэрымэнты, сказала др. Бялысток, дзьвюхмоўныя асобы маюць большую за аднамоўных здольнасьць разьбірацца зь дзьвюма праблемамі адначасна. Дзьвюхмоўнікі – лепшыя шоферы за аднамоўнікаў. А ў старэйшым веку, калі хто зь іх захворвае на заняпад памяці (так званая хвароба Альцгаймэра), дык немач гэтая прыходзіць да аднамоўных у сярэднім на шэсьць гадоў раней, чымся да дзьвюхмоўных.

Мала таго, дзьвюхмоўе ўзмацняе агульны інтэлектуальны патэнцыял чалавека.

Вось самыя цікавыя выказваньні др. Бялысток у інтэрвію газэце "Нью Ёрк Таймс".

**Пытаньне:** Ці разьвіцьцё новых нэўравобразавых (neuroimaging) тэхналёгіяў паўплывала на Вашу працу?

**Адказ:** *Агромніста. Раней было так, што мы маглі бачыць толькі часткі мазгоў, якія засьветліваліся, калі нашыя суб'екты выконвалі розныя заданьні. Цяпер жа, з новымі тэхналёгіямі, мы можам назіраць усе мазгавыя структуры, задзейнічаныя ў згодзе адна з адной.*

*Калі гаварыць пра аднамоўнікаў і дзьвюхмоўнікаў, дык вялікай навіной было тое, што сувязь структураў аказалася рознай. Такім чынам, калі аднамоўнікі, разьвязваючы праблему, карыстаюцца сыстэмамі Ікс, дык дзьвюхмоўнікі, разьвязваючы тую самую праблему, выкарыстоўваюць іншыя сыстэмы. Адно з адкрыцьцяў, якое мы пабачылі, гэта тое, што ў некаторых, нават невэрбальных (нямоўных), тэстах дзьвюхмоўныя асобы хутчэйшыя. Чаму? Вось жа, калі мы глядзім на іхныя мазгі праз нэўраімаджынг, дык выглядае, што яны карыстаюцца іншай сеткай каналаў, якая можа ўключаць моўныя цэнтры для разьвязкі зусім невэрбальных праблемаў. Увесь іхны мозг, як выглядае, мяняе камунікацыйную сетку ў выніку дзьвюхмоўя. (Their whole brain appears to rewire because of bilingualism.)*

**Пытаньне:** Дзьвюхмоўе разглядалася як рэч адмоўная, прынамсі ў Злучаных Штатах? Ці гэта ўсё яшчэ так?

**Адказ:** *Прыблізна да 1960-х гадоў пашыранай мудрасьцю было, што дзьвюхмоўе шкодзіць. Часткова гэта абумоўлівалася ксэнафобіяй. Дзякуючы навуцы, мы цяпер ведаем, што якраз супрацьлеглае адпавядае праўдзе.*

**Пытаньне:** Многія імігранты пастанаўлялі не навучаць дзяцей роднай мове. Ці гэта добра?

**Адказ:** *Мяне ўвесь час пытаюцца пра гэта. Людзі прысылаюць электронныя лісты й кажуць: "Я выходжу замуж за чалавека зь іншай культуры. Што нам рабіць зь дзецьмі?" Я заўсёды адказваю: "Вы маеце пад сабой патэнцыяльны дар".*

Ёсьць дзьве галоўныя прычыны, чаму трэба перадаваць спадчынную мову нашчадкам. Па-першае, гэта спалучае дзяцей зь іхнымі продкамі. А па-другое, гэта вынікі маіх досьледаў: дзьвюхмоўе карыснае чалавеку. Яно ўзмацняе мазгі. Яно зьяўляецца практыкай мазгоў.

Але, як зазначыла др. Бялысток, каб мець карысьць зь дзьвюхмоўя, трэба ім увесь час карыстацца.

*Янка Запруднік*

*Артыкул надрукаваны з захаваннем аўтарскага правапісу

# ЯНКА КАБАНОВІЧ (1951-2012)



25 лютага пасля цяжкай хваробы ў Рызе памёр сябра Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына", беларускі прадпрымальнік і мецэнат Янка Кабановіч.

Янка Кабановіч нарадзіўся 29 сакавіка 1951 г. у вёсцы Вышалаў Петрыкаўскага р-на Палескай вобл. (цяпер Гомельская).

Скончыў Гомельскі політэхнічны тэхнікум па спецыяльнасці тэхнік-механік (1969), быў накіраваны на працу ў Рыгу на фанерны завод "Фурніерс". З 1969 па 1971 гг. служыў на Паўночным флоце.

Пасля войска Янка Кабановіч вярнуўся ў Рыгу і паступіў на працу на радыёзавод "Радыётэхніка". З 1972 па 1978 г. вучыўся на вячэрнім аддзяленні Рыжскага політэхнічнага інстытута па спецыяльнасці інжынер-будаўнік. Працуючы на радыёзаводзе, ён прайшоў шлях ад слесара да начальніка цэха. З 1982 і да 1991 года працаваў начальнікам Рыжскага ўчастка ЛСУ "Прамсувязьэнерганаладка".

У 1991 г. пасля аднаўлення незалежнай Латвійскай Рэспублікі Я. Кабановіч стварыў і стаў першым дырэктарам Рыжскага вытворча-камерцыйнага таварыства "Рада". З 1993 г. быў прэзідэнтам створанага ім Акцыянернага таварыства Гандлёвы Дом "Беларусь". У 1993 г. Янка Кабановіч стварыў і да 1996 г. быў першым кіраўніком Асацыяцыі прадпрымальнікаў-беларусаў Латвіі "Беларускі шлях".

Янка Кабановіч вядомы не толькі як прадпрымальнік, але і як шчодры фундатар дзейнасці беларускай дыяспары ў Латвіі. З 1991 г. і да 1999 г. ён быў фундатарам Беларускай мастацкай студыі "Вясёлка" і Рыжскай Беларускай нядзельнай школы. З 1995 і да 1999 г. – фундатар Латвійскага фонду беларускай культуры. З 1994 і да 1997 г. ён арганізатар і фундатар беларускай газеты ў Латвіі "Прамень". Рэгулярна дапамагаў Рыжскай беларускай асноўнай школе, менавіта дзякуючы ягонай падтрымцы ладзіліся многія мерапрыемствы Латвійскага таварыства беларускай культуры "Світанак", а таксама мастацкія выставы Аб'яднання мастакоў-беларусаў Балтыі "Маю гонар".

Доўгі час сп. Янка Кабановіч быў сябрам Вялікай Рады Згуртавання "Бацькаўшчына", актыўна падтрымліваў дзейнасць Згуртавання, у тым ліку быў адным з фундатараў Першага з'езду беларусаў свету і вырабу копіі крыжа Еўфрасінні Полацкай.

Ён ніколі не пакідаў сувязі з роднай Беларуссю. У 1996 г. у Петрыкаве ім створана Іншаземнае прыватнае ўнітарнае прадпрыемства па вытворчасці дрэваапрацоўкі "Рада-мэкс". Фундаваў будаўніцтва помнікаў загінулым у Другой сусветнай вайне ў шасці вёсках Галубіцкага сельсавета Петрыкаўскага раёна, а таксама быў фундатарам добраўпарадкавання сваёй роднай вёскі Вышалаў.

*Паводле svitanak.lv*

***

**Управа МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" выказвае шчырыя спачуванні родным Янкі Кабановіча, беларускай грамадзе ў Латвіі, і ўсім, хто яго ведаў, з нагоды цяжкай страты. Рай светлы яго душы!**

# УЛАДЗІМІР ГАЙДУК (1941-2012)



На 71-ым годзе жыцця памёр вядомы беларускі паэт, сябра беларускага літаратурнага аб'яднання "Белавежа" Уладзімір Гайдук з Тарнопаля (Нараўчанская гміна, Польшча).

Уладзімір Гайдук нарадзіўся 7 верасня 1941 года ў вёсцы Полымя, Гайнаўскага павета, у сялянскай сям'і.

У 1955 годзе скончыў пачатковую школу і два гады вучыўся ў беларускім ліцэі ў Бельску Падляшскім. У сярэдзіне 1960-х спрабаваў працягнуць адукацыю ў беластоцкім завочным ліцэі, аднак цяжкія матэрыяльныя ўмовы вымусілі адмовіцца ад задумы, трэба было гаспадарыць на хутары.

Першыя вершы Уладзімір Гайдук напісаў яшчэ вучнем пачатковых класаў. Дэбютаваў у 1956 годзе лістом-вершам "Пазнаёмімся" і вершамі "Захад сонца" і "Зіма ідзе" ў газеце беларусаў Польшчы "Ніва".

Аўтар кніг паэзіі "Ракіта" (Беласток, 1971), "Блакітны вырай" (Беласток, 1990), "Пах аернага хлеба" (Беласток, 1998), "Полымя роднае" (Беласток, 2010)

У другой палове пяцідзясятых гадоў творы Уладзіміра Гайдука друкаваліся ў "Ніве" сістэматычна. Аўтар зборнікаў паэзіі "Ракіта" (Беласток, 1971), "Блакітны вырай" (Беласток, 1990), "Пах аернага хлеба" (Беласток, 1998). У 2010 годзе выйшаў апошні ўжо зборнік вершаў паэта "Полымя роднае".

*Паводле Радыё Рацыя і kamunikat.org*

***

**Управа МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" выказвае шчырыя спачуванні родным і блізкім Уладзіміра Гайдука з нагоды напаткаўшага іх гора. Вечная памяць!**

**Беларусы ў свеце**
№2 (119), люты 2012

Інфармацыйны бюлетэнь МГА "ЗБС "Бацькаўшчына". Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.

Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі. Падрыхтоўка матэрыялаў і вёрстка – Т. Печанко
Адказныя за нумар – Н. Шыдлоўская, А Макоўская
Наклад 250 асобнікаў

Адрас рэдакцыі:
вул. Рэвалюцыйная, 15, г. Мінск 220030, Рэспубліка Беларусь
www.zbsb.org
zbsb@tut.by

тэл./факс (+375 17) 200-70-27